# Задачнік

Замацаванне матэматычных паняткаў праз рашэнне тэкставых задач

4
клас

1. Францішак прыцягнуў у школу 18 скрынь з цвікамі, а Алесь – 12 такіх сама скрынь. Францішак, як выявілася, прыцягнуў на 228 штук цвікоў больш за Алеся. Па колькі цвікоў прыцягнулі Францішак і Алесь паасобку?




2. На паліцы было 1225 сшыткаў. Сшыткі прадавалі 3 дні, кожны дзень пароўну. Пасля гэтага на паліцы засталося 226 сшыткаў. Па колькі сшыткаў прадавалі штодня?



3. У краму прывезлі 27 скрынь вінаграду, па 12 кг у кожнай. Адна скрыня каштуе 300 000 рублёў. Колькі каштуе ўвесь вінаград?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

4. Адзін кілаграм грушаў каштуе 20 000 рублёў. Было 2 цэнтнеры грушаў. У першы дзень прадалі 7 разоў па 5 кг, а ў другі 12 разоў па 11 кг. Колькі грошай атрымалі ад продажу? Колькі кілаграмаў грушаў засталося?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

5. Валя выпекла 12 тартоў і 19 пірагоў і прадала ва ўласнай пякарні. Адзін торт Валя прадавала па 57 000 рублёў, а адзін пірог па 41 000 рублёў. Колькі грошай атрымала Валя пасля продажу ўсіх тартоў і пірагоў разам?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

6. Міколка набыў для летніка 9 мячоў па 406 000 рублёў і ракеткі. Кошт ракеткі на 107 000 рублёў меней за мяч. За ўсю закупку Міколка заплаціў 7 242 000 рублёў. Колькі ракетак Міколка купіў у лагер?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

7. У Лерыным кошыку было ў 2 разы больш яблыкаў, чым на стале. Калі Францішак падклаў у Лерын кошык яшчэ 4 яблыкі, у кошыку іх стала ў 3 разы болей чым на стале. Колькі яблыкаў было ў Лерыным кошыку і на стале?

| Малюнак<br>Рашэнне | |
|---|---|
| Адказ | |

8. Алесь, Міколка і Францішак налавілі 48 кг карпаў і ляшчоў. Карпаў было ў 3 разы больш за ляшчоў. Колькі кілаграмаў карпаў і колькі кілаграмаў ляшчоў налавілі хлопцы?

| Малюнак<br>Рашэнне | |
|---|---|
| Адказ | |

9. 25 сшыткаў каштуюць на 80 000 рублёў даражэй за 15 альбомаў для малявання, якія маюць такі сама кошт. Колькі каштуюць сшыткі і альбомы для малявання?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

10. У кніжную краму прывезлі 600 кніг. У першы дзень прадалі 1/3 ад усёй колькасці, а на другі – 2/8 ад рэшты кніг. Колькі кніг прадалі за два дні?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

11. У Міколкавым гаражы стаяць аўтамабілі і матацыклы. Разам яны маюць 56 колаў. Колькі ж у Міколкі аўтамабіляў і колькі матацыклаў, калі разам іх – 18?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

12. Пасля таго як з касы выдалі сямі кліентам па 1 940 000 рублёў, у касе засталося 13 964 000 рублёў. Колькі грошай было ў касе першапачаткова?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

13. У агульных вагонах цягніка на 1060 пасажыраў больш, чым у плацкартных. Колькі пасажыраў у агульных і плацкартных вагонах паасобку, калі ў плацкартных вагонах пасажыраў у 5 разоў меней, чым у агульных?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

14. Ва ўласным атэлье Лера і Валя пашылі 24 паліто і 45 гарнітураў на якія выкарысталі 231 м тканіны. Звычайна на 24 паліто і 30 гарнітураў Валя з Лерай выкарыстоўваюць 186 метраў тканіны. Колькі метраў тканіны дзяўчаты выкарыстоўваюць на адно паліто і колькі на адзін гарнітур?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

15. У дзіцячы садок набылі 19 канструктараў па 17 400 рублёў і некалькі самаходзікаў па 21 000 рублёў. За ўсё заплацілі 813 600 рублёў. Колькі самаходзікаў набылі ў дзіцячы садок?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

16. У адной скрыні 68 кг памаранчаў, а ў другой у 4 разы болей. Кошт аднаго кілаграма 25 000 рублёў. Колькі каштуюць усе памаранчы?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

17. Тата Францішка злавіў 3 шчупакі. Усе яны разам важылі 3 кг 150 г. Два шчупакі важылі аднолькава, а трэці важыў палову кожнага з іх. Колькі важыць кожны шчупак?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

18. У тры дзіцячыя садкі прынялі 1323 дзяцей. У адзін садок прынялі 450 дзетак, у кожную групу па 25 дзетак. У другі садок – па 27 дзетак у 17 групаў. Рэшту дзетак прынялі ў трэці садок, па 23 дзіцёнкі ў групу. Колькі групаў ва ўсіх трох дзіцячых садках?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

19. За 6 крэслаў заплацілі 7 242 000 рублёў, а за 9 зэдлікаў на 1 482 000 менш. Колькі каштуе адзін зэдлік і адно крэсла?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

20. Адзін квіток у цырк каштуе 193 000 рублёў. Колькі спатрэбіцца грошай, каб набыць 27 такіх квіткоў? Колькі квіткоў можна набыць на 3 667 000 рублёў?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

21. Дзеткі з нашага 4 “Б” класу набылі на свята 36 чырвоных і некалькі белых ружаў. Колькі было белых ружаў, калі іх было ў 3 разы болей, чым чырвоных? Колькі грошай выдаткавалі дзеці на ўсе ружы, калі адна кветка каштуе 127 000 рублёў?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

22. На зіму купілі 1 ц 75 кг бульбы па 6 000 рублёў за кілаграм і 27 кг морквы па 11 000 рублёў за кілаграм. Колькі каштавала ўся пакупка?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

23. З агароду сабралі: 2 т 256 кг бульбы, буракоў у 4 разы меней, чым бульбы, а морквы на 197 кг менш, чым буракоў. Колькі ўсяго кілаграмаў гародніны сабралі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | |

24. На Лерыным кветніку расквітнела 287 цюльпанаў, а на Валіным у 7 разоў болей. На Лерыным кветніку зрэзалі 178 цюльпанаў, а на Валіным у 5 разоў больш. Па колькі кветак засталося на кветніках ў Леры і Валі?

| | |
|---|---|
| Малюнак | |
| Рашэнне | |
| Адказ | |

25. У краме было 800 скрыначак з алоўкамі. У першы дзень прадалі 2/5 гэтай колькасці, а на другі дзень – 3/8 гэтай колькасці, а на трэці на 150 скрыначак менш чым на другі дзень. Колькі скрыначак з алоўкамі засталося ў краме?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

26. На выставу прывезлі 252 карціны. У вялікай зале павесілі 124 карціны, а рэшту карцін павесілі пароўну ў чатырох маленькіх залах. Па колькі карцін у кожнай з маленькіх залаў?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

27. Мама дала Леры 7 банкнотаў па 10 000 рублёў. Колькі сшыткаў зможа купіць Лера, калі адзін сшытак каштуе 1 900 рублёў? Колькі будзе рэшты?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

28. Бацькі 4 "Б" класу набылі для спартовай залы валейбольную сетку і 90 мячоў. За ўсю пакупку заплацілі 5 600 000 рублёў. Колькі каштуе мяч, калі сетка каштуе 1 100 000 рублёў?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

29. За 12 м шоўку і 17 м воўны краўчыхі Валя і Лера заплацілі 290 000 рублёў. Метр воўны каштуе 9 800 рублёў. Колькі каштуе метр шоўку?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

30. Бацькі 4 "Б" класу заплацілі за 10 футбольных мячоў 7 840 000 рублёў, а за 7 баскетбольных на 630 000 рублёў больш. На колькі рублёў баскетбольны мяч даражэй за футбольны?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

31. Восенню на школьным кірмашы дзеці 4 “Б” класу прадавалі вырашчаныя за лета кавуны. У першы дзень яны прадалі 1 т 470 кг кавуноў, на другі дзень на 315 кг менш, чым у першы, а на трэці на 520 кг больш чым у другі. Колькі ўсяго кавуноў было прададзена за тры дні школьнага кірмашу?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

32. У шпулі 723 м тканіны. Леры з Валяй трэба пашыць 20 паліто, 17 плашчоў і 15 марынарак. На адно паліто выкарыстоўваецца 7 м тканіны, на плашч – 5 м, а на марынарку 3 м. Колькі метраў тканіны застанецца пасля пашыву?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

1. Шырыня простакутніка роўна 45 мм, а даўжыня у 4 разы болей. Чаму роўныя перыметр і плошча простакутніка? Адлюструйце іх у сантыметрах.

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

2. Намалюй квадрат з бокам 5 см. Вылічы яго плошчу. Зафарбуй 1/5 плошчы квадрата. Колькі $см^2$ ты зафарбаваў?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

3. Падзялі простакутнік даўжынёй 30 см і шырынёй 12 см на дзве часткі такім чынам, каб адна частка была большай за другую ў 4 разы. Вылічы плошчу кожнай часткі.

| | |
|---|---|
| *Малюнак* *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

4. Плошча простакутніка 875 см², а яго даўжыня 35 см. Вылічы перыметр простакутніка.

| | |
|---|---|
| *Малюнак* *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

5. Вылічы плошчу лецішча, калі даўжыня дома 8 м, а шырыня – 6 м. Падворак з пабудовамі займае 25 м², а сад і агарод займаюць 100 м².

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

6. Узялі 58 аднолькавых квадратаў. З іх склалі простакутнік. Вылічы плошчу аднаго квадрата, калі бакі простакутніка роўныя 29 см і 44 см?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

7. Перыметр чатырохкутніка роўны 3 м 56 см. Два ягоныя бакі роўныя 91 см, а трэці бок 85 см. Вылічы даўжыню чацвёртага боку чатырохкутніка. Якой даўжыні будзе бок квадрата з такім сама перыметрам?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

8. Даўжыня агарода простакутнай формы роўная 30 м, а шырыня – 18 м. Плошча агарода складае дзесятую частку садовага ўчастку. Вылічы плошчу агарода і садовага участку.

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

9. Адзін бок трохкутніка роўны 88 см, другі – на 26 см карацейшы за першы, а трэці бок у 2 разы карацейшы за другі. Вылічы перыметр трохкутніка.

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

10. Плошча парку складае 92 000 м². Частка гэтага парку ў форме простакутніка з бакамі 280 м і 100 м адведзена пад атракцыёны. Тры чацвёртых рэшты парку займаюць дрэвы. Вылічы якую плошчу займаюць дрэвы.

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

11. Агароджа мае форму простакутніка. Шырыня агароджы 75 см. Вылічы даўжыню агароджы, калі яе перыметр складае 420 дм. Вылічы плошчу простакутніка.

| | |
|---|---|
| *Малюнак*<br><br>*Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

12. Намалюй простакутнік плошча якога 18 см², а даўжыня аднаго з бакоў 6 см. Вылічы перыметр гэтага простакутніка. Правядзі адрэзак, каб атрымаўся квадрат. Вылічы перыметр і плошчу квадрата.

| | |
|---|---|
| *Малюнак*<br><br>*Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

1. Алесь сваім пазадарожнікам праехаў 425 км з хуткасцю 85 км/г, а Францішак сваім – 486 км з хуткасцю 81 км/г. На колькі гадзін Алесь быў у дарозе менш за Францішка?

| Малюнак<br><br>Рашэнне | |
|---|---|
| Адказ | |

2. Міколка, калі праехаў на скутары 120 км, праверыў рэшту паліва і выявіў, што спаліў 1/3 частку наяўнага запасу. Ці будзе ў яго дастаткова паліва каб праехаць усю адлегласць, якая складае 350 км?

| Малюнак<br><br>Рашэнне | |
|---|---|
| Адказ | |

3. Лічыльнік аўтамабіля паказваў 12021 км. Праз 10 гадзін на лічыльніку з’явілася лічба, якая чыталася аднолькава з абодвух бакоў. З якой хуткасцю ехаў аўтамабіль?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

4. З двух гарадоў, адлегласць паміж якімі 917 км, выехалі адначасна насустрач адна адной байкершы Валя і Лера. Яны сустрэліся праз 7 гадзін. Хуткасць Валінага мотабайку была 67 км/г. З якой хуткасцю ехала Лера сваім байкам?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

5. Самалёт праляцеў 2940 км за 3 гадзіны. Колькі часу спатрэбіцца самалёту, каб праляцець увесь шлях, які роўны 7840 км?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

6. Ад прычалу адплыў човен з рухавіком. Праз 2 гадзіны ад таго сама прычалу ў тым сама кірунку адплыў цеплаход. Праз які час цеплаход дагоніць човен, калі хуткасць чоўна 12 км/г, а цеплахода – 20 км/г?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

7. Аўтамабіль ехаў па горадзе 2 гадзіны з хуткасцю 55 км/г, а за горадам 6 гадзін з хуткасцю 90 км/г. Вылічы адлегласць, якую праехаў аўтамабіль.

Малюнак

Рашэнне

Адказ

8. Аўтааматар едзе ў суседні горад з хуткасцю 93 км/г. За 1 гадзіну ён праехаў 1/3 частку ўсяго шляху. Вылічы адлегласць да суседняга горада.

Малюнак

Рашэнне

Адказ

9. У адзін той сама час у супрацьлеглых кірунках выехалі два аўтамабілі. Хуткасць аднаго 86 км/г, а другога – 94 км/г. Праз які час паміж імі будзе адлегласць 270 км?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

10. Два аўтамабілі выехалі насустрач адзін аднаму з двух гарадоў, адлегласць між якімі 540 км. За гадзіну адзін аўтамабіль праязджае 80 км, а другі – на 15 км болей. Якая адлегласць будзе паміж аўтамабілямі праз адну гадзіну?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

11. Валацугі прайшлі пешшу 15 км, чоўнам праплылі ў 7 разоў болей, чым прайшлі пешшу, а цягніком яны праехалі на 387 км болей, чым праплылі чоўнам. Які шлях пераадолелі валацугі?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

12. Цеплаход у першы дзень плыў 5 гадзін з хуткасцю 40 км/г, а на другі дзень ён праплыў 301 км. На колькі кіламетраў болей цеплаход праплыў на другі дзень, чым у першы?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* | |
| *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

13. Адначасна насустрач выйшлі два кацеры. Іх хуткасць у стаячай вадзе 26 км/г. Праз колькі часу яны сустрэнуцца, калі хуткасць цячэння 2 км/г, а адлегласць паміж прычаламі 104 км?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

14. Аўтобус за 4 гадзіны праязджае 344 км, а цягнік праходзіць за гадзіну ў 2 разы меней за аўтобус. Колькі кіламетраў праедзе цягнік за 10 гадзін?

Малюнак

Рашэнне

Адказ

15. Машына праехала 56 км за 30 хвілін. Колькі кіламетраў праедзе фурманка за 2 гадзіны, калі хуткасць фурманкі складае 1/4 хуткасці машыны?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

16. З двух гарадоў адначасна насустрач адзін аднаму выехалі два аўтобусы. Хуткасць першага аўтобуса 57 км/г, а другога – 64 км/г. Першы аўтобус праехаў да сустрэчы 171 км. Колькі праехаў да сустрэчы другі аўтобус? Якая адлегласць паміж гарадамі?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

1. Намалюй адрэзак даўжынёй 12 см. Падзялі яго на 3 роўныя часткі. Кожную частку, якую атрымаў, падзялі на 2 роўныя часткі. На колькі роўных частак падзелены ўвесь адрэзак?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

2. Пабудуй тры розныя простакутнікі з аднолькавым перыметрам 16 см. Вылічы іх плошчу.

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

3. Намалюй квадрат з бокам 6 см. Вылічы яго плошчу і зафарбуй 18/36 гэтага квадрата. Якая плошча непафарбаванай часткі?

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

4. Намалюй простакутнік з бакамі 2 см і 8 см. Вылічы плошчу і перыметр гэтага простакутніка. Намалюй квадрат з такой сама плошчай і перыметрам.

| | |
|---|---|
| *Малюнак* <br> *Рашэнне* | |
| *Адказ* | |

5. Намалюй квадрат з бокам у 4 см. Падзялі яго на 4 роўных квадраты. У колькі разоў перыметр большага квадрата большы за перыметр маленькага?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

6. Намалюй акружнасць з радыусам у 2 см і цэнтрам О. Пазнач кропку В на акружнасці, кропку М унутры акружнасці і кропку С звонку акружнасці. Спалучы гэтыя кропкі з цэнтрам О. Запішы сапраўдныя няроўнасці.

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

7. Намалюй акружнасць з цэнтрам О і радыусам 3 см. Пазнач на акружнасці тры кропкі А,К,М і спалучы кожную з цэнтрам акружнасці. Як называюцца атрыманыя адрэзкі? Якая ў іх даўжыня?

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

8. Пабудуй акружнасць з даўжынёй радыуса 4 см 4 мм і цэнтрам О. З цэнтрам у той сама кропцы пабудуй яшчэ адну акружнасць, радыус якой складае 2/4 даўжыні радыуса першай акружнасці.

*Малюнак*

*Рашэнне*

*Адказ*

# Змест




Бацькі 4 "Б" класа **ПШ 34 з Берасця** дзякуюць **Уладзіміру Хільмановічу з Гародні** за дапамогу.

Брэст 2014